«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 42 (4602)

8 чэрвеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Паводле інфармацыі праваабаронцаў, у Беларусі налічваецца ўжо 470 палітычных зняволеных.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Михаил ЧИГИРЬ: «Сейчас нельзя решить экономические проблемы, не изменяя политического курса…»

*«Народная Воля» поинтересовалась, как оценивает нынешнюю экономическую ситуацию бывший премьер-министр, который в знак несогласия с политикой Лукашенко оставил пост.*



– Радоваться нечему, – *говорит Михаил Николаевич*. – Ситуация в экономике сложная. По моим прогнозам, нас ожидают проблемы с валютным курсом, падение реальных доходов населения. Но голодать не будем – наши люди всегда могут себя прокормить, земля у нас хорошая. Может, немного меньше мяса будем есть, но это только на пользу здоровью пойдет.

**– А премьер-министр Головченко говорит, что ситуация в экономике не такая уж и катастрофическая, даже плюсы какие-то есть…**

– Это из серии тех обещаний, что всё хорошо, а будет еще лучше, и скоро будем жить при коммунизме.

Чтобы было лучше, надо что-то делать для этого. Сама по себе ситуация не изменится.

**– Есть какие-то чисто экономические рецепты, что делать?**

– Всё перешло в область политики. Сейчас нельзя решить экономические проблемы, не изменяя политического курса. Мы сейчас в конфликте со всем миром, только с Россией по-прежнему дружны, и то многое под вопросом. Такие крупные ссоры никогда ни к чему хорошему не приводили.

**– Россия недавно дала нам кредит…**

– Ну а куда она денется? А то перейдем в НАТО, и НАТО будет под Смоленском.

**– Сегодня, кстати, некоторые всерьез опасаются: лишь бы не война.**

– Ну какая война? Разве у нас с кем-то есть территориальные конфликты? Нет таких проблем, которые могли бы послужить поводом для конфликтов.

Ну вот зачем, скажите, нужен был этот самолет? Ну летел бы и летел себе! А что сейчас с «Белавиа» будет? Кому это выгодно?

Политик должен знать: какой бы он хороший ни был, его всё равно будут критиковать. И к этому нужно быть готовым и воспринимать это нормально.

**– Есть ли сегодня предпосылки для массовых протестов?**

– Нужно до отчаяния довести людей, чтобы они пошли на улицу. Если рабочие две недели аванс или зарплату не получают – уже катастрофа. Поэтому будут что-то платить для поддержки штанов.

**– По вашим прогнозам, чем всё закончится? К чему готовиться?**

– Все перемены обычно случаются настолько внезапно, что никто предсказать не может, как всё повернется. В любое время могут быть изменения – прежде всего политические.

**– Политзаключенных нужно сегодня выпускать?**

– Ну а что толку их держать? Всё равно этих людей не перевоспитаешь, да и они не враги Беларуси. Только тратят государственные деньги на их содержание… Но чиновники боятся, что, если выпустят Павла Северинца или Николая Статкевича, они могут поднять людей на протесты. Поэтому их и держат. Впрочем, чем скорее пройдут новые президентские выборы, тем скорее всё успокоится.

Заметьте, доходит до абсурда с этими бело-красно-белыми цветами, зонтиками, носками. Маразм какой-то! Ну ходят люди в этих цветах одежды и пусть ходят, зачем на них кидаться? Ну да, была когда-то такая символика, что в этом такого? Я когда-то, кстати, говорил Лукашенко: не надо менять символику, это денег стоит, – но он не послушал. А сейчас уже говорят, что это фашистская символика. Ну абсурд!

**– В общем, всё не очень оптимистично…**

– У меня картошка растет на участке и капуста, вот и весь оптимизм. Проживем!

**– Вас некоторые упрекают: мол, такая ситуация критическая в стране, а Чигирь молчит…**

– Я на эти упреки отвечаю так: а где вы все были, когда я пытался что-то изменить? Ну и потом, давайте будем справедливы: всему свое время – я уже и сильно бегать не могу (*смеется*).

Какие-то всё дележки, раздраи – не хочу в этом участвовать! Один бывший политик пытался на меня наехать, я хотел ему сказать: а как ты гнал студентов на досрочное голосование, когда я шел на досрочные выборы?

Есть люди, которые видят себя только в главной роли. А черновой работой не все хотят заниматься. Хотя места и сфер деятельности на всех хватит при нормальных условиях – кто-то в бизнес пойдет, кто-то министром или губернатором будет. Но все ж на президентское кресло сразу метят!

**– Мне кажется, некоторые политики каждую избирательную кампанию наступают на одни и те же грабли. А толкового разбора полетов и стратегических ошибок потом никто не делает.**

– Да, ходим по одним и тем же граблям…

**Марина КОКТЫШ.**

ВЧЕРА

## Тихановскую в Чехии приняли как главу государства

*Об этом заявил спикер чешского сената **Милош Выстрчил.***



«Выборы президента Беларуси, прошедшие в августе 2020 года, были несвободными, несправедливыми и противозаконными. То, что Сенат пригласил в Чехию в качестве своего главного гостя **Светлану Тихановскую**, воспринимаю как то, что чешский Сенат и лично я считаем ее президентом Беларуси», – приводит слова политика российское агентство *ТАСС*.

Сообщается также, что на встрече с чешскими сенаторами Тихановская обсуждала возможность помощи белорусской оппозиции с чешской стороны.

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## На мінімуме

*Міністэрства аховы здароўя паведаміла, што за апошнія суткі (па стане на 7 чэрвеня) у краіне зарэгістравана 570 выпадкаў каранавіруса.*

Гэта мінімум з пачатку года! Днём раней было 973 выпадкі.

З пачатку пандэміі зарэгістраваны 400.422 чалавекі са станоўчым тэстам на кавід. Выздаравелі 392.744 пацыенты.

За ўвесь час памерлі 2919 чалавек.

Міністэрства аховы здароўя дадае, што першую дозу вакцыны атрымалі 619 тысяч чалавек, з іх 329,3 тысячы прайшлі поўны курс вакцынацыі.

АКЦЫЯ

## Вызваліць палітвязняў, адкрыць наземныя межы і правесці новыя прэзідэнцкія выбары!




У мінулыя выхадныя беларусы Літвы разбілі намётавы гарадок на літоўска-беларускай мяжы (ля памежнага пункта «Мядзінінкай»). Пікетоўцы заклікаюць Еўрасаюз паскорыць прыняцце санкцый супраць лукашэнкаўскага рэжыму. Патрабаванні да беларускіх улад – вызваліць палітвязняў, адкрыць наземныя межы і правесці новыя прэзідэнцкія выбары.

Калі голас пікетоўцаў не будзе пачуты, яны пагражаюць праз 4 дні заблакіраваць рух грузавікоў.

Пазней яшчэ адзін такі пікет пачаўся на польска-беларускай мяжы ў Баброўніках. На яго прыехаў і Павел Латушка.

**Віктар ШПАК.**

СТАЛА ВЯДОМА

## Золатавалютныя рэзервы Беларусі за май выраслі на 6,7 працэнта да 7,8 мільярда долараў

Міжнародныя рэзервовыя актывы Беларусі на 1 чэрвеня 2021 года, паводле папярэдніх дадзеных, склалі 7 мільярдаў 763,1 мільёна долараў у эквіваленце, паведамілі БЕЛТА ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў Нацыянальнага банка.

За май 2021 года золатавалютныя рэзервы павялічыліся на 485,2 мільёна долараў (на 6,7 працэнта) пасля росту ў красавіку на 337,9 мільёна (на 4,9 працэнта).

*«Рост узроўню золатавалютных рэзерваў у маі ў асноўным абумоўлены купляй Нацыянальным банкам замежнай валюты на таргах ААТ «Беларуская валютна-фондавая біржа», павелічэннем кошту манетарнага золата, а таксама паступленнем замежнай валюты ў бюджэт»*, – растлумачылі ў Нацбанку.

У маі 2021 года ўрадам выканана знешніх і ўнутраных абавязацельстваў у замежнай валюце на суму каля 132 мільёнаў долараў.

Згодна з асноўнымі напрамкамі грашова-крэдытнай палітыкі на 2021 год, абъём міжнародных рэзервовых актываў на 1 студзеня 2022 года павінен складці не менш за 6 мільярдаў долараў.

# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 8068 дзён таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 7936 дзён таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 7936 дзён таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 7641 дзень таму

Народная Воля http://www.nv-online.info 8 ЧЭРВЕНЯ 2021 г.

ЧУЛІ?

# Блогер Лапшын адмовіўся паціснуць руку беларускаму паслу Аляксандру Канюку



Аляксандр Канюк (злева) і Аляксандр Лапшын (у чорнай футболцы ў цэнтры) на выставе ў Ерэване. Фота з сацсетак.

facebook.com/Alexander Lapshin (Courtesy Photo)

Вядомы блогер **Аляксандр Лапшын**, якога Мінск у 2017 годзе выдаў Азербайджану, не стаў размаўляць з беларускім паслом у Арменіі **Аляксандрам Канюком**, нават адмовіўся паціснуць яму руку. Яны абодва апынуліся на адной сцэне падчас турыстычнай выставы ў Ерэване.

Аляксандр Лапшын прызнаўся журналістам, што выдатна памятае пра ролю Канюка ў гісторыі з яго выдачай Баку. У тыя гады Канюк узначальваў Генеральную пракуратуру і быў адным з тых, хто падпісваў дакументы на экстрадыцыю. Азербайджан патрабаваў яго выдачы за наведванне Нагорнага Карабаха без дазволу азербайджанскіх улад. Супраць экстрадыцыі блогера выступалі ўлады Расіі, Ізраіля і Арменіі. Але Мінск выдаў яго Баку. Там яго асудзілі на 3 гады пазбаўлення волі, аднак праз пару месяцаў памілавалі і экстрадзіравалі ў Ізраіль (у Лапшына ёсць ізраільскі пашпарт).

Блогер ахарактарызаваў Канюка як чалавека, *«які не мае ні свайго меркавання, ні сваёй пазіцыі. Гэта слугі Лукашэнкі, якіх кідаюць з адной пасады на іншую»*.

Лапшын мяркуе, што Канюк нясе адказнасць за *«пасадкі ў турмы тысяч беларусаў»* і ён *«павінен быць выгнаны з Арменіі»*.

Аляксандр Канюк пакінуў пасаду генеральнага пракурора Беларусі ў верасні 2020 года.

*(Паводле «Радыё Свабода».)*

НУ І НУ!

# За тры дні гамяльчанін «зарабіў» амаль 2 мільёны, але дабрабыту не займеў

У студзені гэтага года 49-гадовы гамяльчанін Яўген К. на анлайн-пляцоўцы гандлю валютамі «Банка Дабрабыт» запрыкмеціў незвычайную інфармацыю: за адзін расійскі рубель прапаноўвалі 3,43 беларускага. Памыліліся ў банку, выстаўляючы курс, – насамрэч столькі каштавалі 100 расійскіх рублёў.

Сцяміўшы, што на тэхнічнай памылцы можна няблага «зарабіць», Яўген на пачатку памяняў невялікую суму. Банкаўская прапанова працавала! За расійскі рубель давалі амаль тры з паловай беларускіх. Паваротлівы мужчына паспяшаўся ў абменнік, дзе ўсе свае ашчадкі ў доларах памяняў на расійскія рублі і перавёў іх на картку, а потым анлайн прадаў за беларускія рублі. І пайшло-паехала. Беларускія рублі Яўген канвертаваў у долары, долары – у расійскія, а потым – зноў у беларускія. За тры дні гамяльчанін правёў 28 такіх «шматхадовачак» і нагрэў банк на 1,7 мільёна рублёў.

Урэшце страту грошай і памылку ў банку выявілі. Звярнуліся ў міліцыю. Дзеянні Яўгена К. былі кваліфікаваны як крадзеж у асабліва буйным памеры (ч.4 арт.205 Крымінальнага кодэкса), паколькі тэхнічная памылка банка падчас валютна-абменных ды іншых аперацый з грашыма не з'яўляецца падставай для вызвалення ад адказнасці.

Крымінальную справу супраць Яўгена К. нядаўна разгледзеў суд Савецкага раёна Гомеля. Абвінавачаны віну сваю адмаўляў. Казаў, што вярнуў грошы банку і нават збіраўся заключыць з ім міравое пагадненне, але не паспеў, бо быў затрыманы міліцыяй. У сваю чаргу прадстаўнікі банка на пасяджэнні суда сцвярджалі, што Яўген вярнуў толькі частку грошай, а потым стаў казаць, што яго аперацыі былі законнымі.

Суд пакараў гамяльчаніна чатырма з паловай гадамі зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з выплатай штрафу ў памеры 2900 рублёў. Але вынесены прысуд можа быць яшчэ абскарджаны.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

ВЕРДЫКТ

# Кіеўскі ўніверсітэт пазбавіў Лукашэнку звання ганаровага доктара

Навуковая рада Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі пазбавіла **Аляксандра Лукашэнку** звання ганаровага доктара. Рашэнне ініцыяваў новы рэктар **Уладзімір Бугроў**.

Пазбаўленне ганаровага звання Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта адбылося ўпершыню ў яго гісторыі. Перад ухваленнем рашэння аб пазбаўленні Лукашэнкі звання сябры Навуковай рады ўхвалілі дакумент аб працэдуры пазбаўлення ганаровага звання.

У маі пасля інцыдэнту з прымусовай пасадкай самалёта Ryanair і затрыманнем **Рамана Пратасевіча** рэктар Кіеўскага ўніверсітэта заклікаў чальцоў Навуковай рады тэрмінова пазбавіць Аляксандра Лукашэнку звання ганаровага доктара.

Летась, пасля жорсткіх разгонаў акцый пратэсту супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі з аналагічнай ініцыятывай выступілі выпускнікі Кіеўскага ўніверсітэта. Але тады навучальную ўстанову ачольваў акадэмік **Леанід Губерскі**, які ўручаў Лукашэнку дыплом, мантыю і ганаровы знак. Гэта адбылося 5 лістапада 2009 года падчас візіту Лукашэнкі ў Кіеў.

Сёлета ў Кіеўскім універсітэце адбыліся выбары рэктара, у якіх Леанід Губерскі не ўдзельнічаў, а пераможцам стаў Уладзімір Бугроў.

На сённяшні дзень званне ганаровага доктара Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі маюць 99 асоб, у тым ліку колішнія кіраўнікі Казахстана, Грузіі, Таджыкістана, Азербайджана, Узбекістана і шэрагу еўрапейскіх краін.

**Алена ЛІТВІНАВА,**
**карэспандэнт Радыё Свабода ў Кіеве.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Дмитрий Мазепин, владелец «Уралхима», отрицает причастность к финансированию канала Путило и Протасевича

Напомним: ранее в интервью Романа Протасевича прозвучало предположение, что телеграм-канал, который они вели с Путило, получал пожертвования от российского бизнесмена. Упоминалось, что он является конкурентом Михаила Гуцериева, но имя названо не было. Вчера гендиректор и основной владелец «Уралхима» **Дмитрий Мазепин** опроверг свою причастность к финансированию такой деятельности. Об этом сообщило *«РИА Новости»*. Через некоторое время на его заявление отреагировали в Кремле.

Вот что сказал сам Мазепин.

*– То, что касается главного вопроса, – финансирования. Не было сказано имен и фамилий, но были сказаны определенные факты. Это компания, в названии которой есть «Урал» и которая является конкурентом Гуцериева, и про встречи в Польше. Я имею непосредственное отношение к компаниям «Уралкалий» и «Уралхим», но ни я, ни мои компании никогда не финансировали вышеуказанные телеграм-каналы. Насколько я знаю, Михаил Гуцериев занимается многими проектами, включая нефтяной бизнес и творчество. Я не имею ни к первому, ни ко второму отношения, и мы здесь не являемся конкурентами.*

*Что касается встреч в Польше, во время ковида очень сложно приехать куда-то и не быть замеченным, особенно когда нужны специальные разрешения. Я никогда в жизни не был в Польше. Мне неприятно говорить про финансирование телеграм-каналов не потому, что нет фактов, а потому, что это противоречит моим взглядам,* – рассказал олигарх на канале «Россия 24».

Кроме того, на эту историю отреагировал и официальный Кремль. Пресс-секретарь Дмитрий Песков на слова Мазепина заявил следующее:

*– Мазепина же никто не обвинял ни в чем. Собственно, фамилия Мазепин Протасевичем не произносилась. Наверное, он как-то должен разъяснить, или белорусская сторона должна разъяснить, о ком идет речь, вряд ли здесь можно в кошки-мышки играть. Вот действительно, связанный с Уралом бизнесмен Мазепин заявил, что никакого отношения к этому не имеет и иметь не может. Наверное, о ком-то другом говорил Протасевич, но мы не знаем, о ком, а он сам не уточнил. И белорусская сторона не уточнила,* – сказал Песков журналистам.

**Татьяна ОШУРКЕВИЧ.**

РАКІРОЎКА



# На выхад!

*Учора галоўны трэнер зборнай Беларусі па хакеі **Міхаіл Захараў** адпраўлены ў адстаўку.*

Як раней паведамлялася, выступленне нацыянальнай каманды пад кіраўніцтвам **М.Захарава** на апошнім чэмпіянаце свету было правальным: беларусы атрымалі адну перамогу ў сямі матчах і занялі апошняе месца ў сваёй групе і перадапошняе сярод усіх каманд. Прапіску ў эліце зборная Беларусі захавала толькі дзякуючы таму, што праз пандэмію не праводзіліся чэмпіянаты свету ў ніжэйшых дывізіёнах.

Міхаіл Захараў, які ў апошнія дні атрымаў шмат крытыкі ў свой адрас, падаў прашэнне аб адстаўцы, і яна была прынята.

Нагадаем, што для Захарава гэта было трэцяе прышэсце на пасаду галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай і, магчыма, апошняе.

Новым галоўным трэнерам прызначаны настаўнік мінскага «Дынама» **Крэйг Вудкрафт**, які і будзе рыхтаваць каманду да алімпійскай кваліфікацыі.

З 26 па 29 жніўня беларусам трэба будзе пазмагацца за адзіную пуцёўку на Алімпіяду з камандамі Славакіі, Аўстрыі і Польшчы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДА ЎВАГІ!

# Можаце з імі сустрэцца…

Кіраўнікі рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых дзяржаўных арганізацый, падпарадкаваных ураду, правядуць у чэрвені асабістыя прыёмы грамадзян у рэгіёнах краіны, паведаміла БЕЛТА ў прэс-службе ўрада.

**Сяргей Налівайка**, міністр па падатках і зборах, сустрэнецца з грамадзянамі **10 чэрвеня** ў Слуцкім райвыканкаме.

**Сяргей Кавальчук**, міністр спорту і турызму, – **16 чэрвеня** ў Лунінецкім райвыканкаме.

**Канстанцін Шульган**, міністр сувязі і інфарматызацыі, – **17 чэрвеня** ў Наваполацкім гарвыканкаме.

**Уладзімір Макей**, міністр замежных спраў, правядзе **18 чэрвеня** прыём грамадзян у Смалявіцкім райвыканкаме.

**Алег Сліжэўскі**, міністр юстыцыі, у гэты ж дзень будзе прымаць наведвальнікаў у Калінкавіцкім райвыканкаме.

**Анатоль Лапо**, старшыня Дзяржаўнага пагранічнага камітэта, правядзе прыём у Пружанскім райвыканкаме.

**Уладзімір Калтовіч**, міністр антыманапольнага рэгулявання і гандлю, **25 чэрвеня** сустрэнецца з грамадзянамі ў Ляхавіцкім райвыканкаме.

ПРЕСС-КОНФЕРЕНЦИЯ

# Что нужно, чтобы превратить Беларусь в рыбацкий рай

*Республиканское государственно-общественное объединение «Белорусское общество охотников и рыболовов» (БООР) весной 2021 года запустило в водоемы страны 300 тысяч особей ценных видов рыб. Почему это число могло быть намного больше и как защищают и развивают белорусские водные угодья, специалисты рассказали в ходе пресс-конференции в мультимедийном пресс-центре «Sputnik Беларусь».*

## О браконьерстве

Беларусь находится в водоразделе двух морей. 57% территории относится к бассейну Черного моря – реки Днепр, Припять, Березина, Сож, 43% – к бассейну Балтийского моря: в него свои воды несут Неман, Западная Двина, Западный Буг, Ловать. Эти реки протекают по территории России, Прибалтики, Украины. По словам спикеров, для рыб не существует границ, поэтому, если в период нерестовой миграции в какой-либо стране осуществляется незаконный промысел, это подрывает популяцию во всем водоеме.

Наиболее тесно Государственная инспекция охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь взаимодействует с Федеральным агентством по рыболовству Российской Федерации. Совместные рейды осуществляются на трансграничных водоемах и прилегающих к ним территориях.

*«Проводятся согласованные мероприятия, когда в одно время инспекторы на одном водном объекте с двух сторон отрабатывают водоем на предмет выявления нарушений»*, – рассказала начальник отдела контроля за охраной и использованием объектов животного и растительного мира Государственной инспекции охраны животного и растительного мира при Президенте Республики Беларусь **Татьяна Титова**.

На территорию сопредельного государства рыболовов, очевидно, ведет поговорка «На другом берегу рыбы всегда больше». Многие в период запрета массово используют сети и другие запрещенные орудия ловли.

*«Например, россиян задержано на территории Республики Беларусь где-то 15–17. Несколько меньше задерживается граждан Республики Беларусь на территории России. Это не только административные протоколы, есть факты уголовных наказаний»*, – рассказала Титова.

Вместе с тем, как отметила представитель Госинспекции охраны животного и растительного мира, количество браконьеров снижается. В первую очередь это связано с масштабной профилактической работой среди рыболовов в приграничной полосе Беларуси и России. За пять месяцев 2021 года в рамках акции «Сдай сети» около 450 белорусов добровольно сдали 1700 сетей общей протяженностью 65 километров.

Еще одно место, которое постоянно находится под контролем инспекции, – это водоемы, находящиеся в зоне отчуждения на территории, пострадавшей от катастрофы на ЧАЭС.

*«Рейдовые мероприятия проходят там на постоянной основе, а не только в период нереста. Не скажу, что очень часто, но факты нарушения выявляются. Если на таких территориях выявляются факты нарушения, то, помимо штрафа, нарушитель оплачивает нанесенный вред. Вред на данной территории оплачивается в тройном размере»*, – сказала Титова.

## О зарыблении

Спикер пояснила, что инспекторы двух государств не только сохраняют, но и преумножают рыбные запасы. В 2016 году на Днепре произошла массовая гибель рыбы.

*«Мы совместными усилиями начали зарыблять этот водный объект. Много выпускается усача и стерляди, щуки»*, – рассказала Титова.

Еще более масштабно эта работа ведется на территории Беларуси. Зарыбление БООР проводит с 2014 года за счет отчисления взносов рыболовов-любителей. За 6 лет проведено зарыбление 92 водоемов по всей стране. Основные вселяемые виды рыб – щука, сом, линь, карась, карп, амур.

*«Весной 2021 года в четырех областях мы зарыбили восемь водоемов, общее количество вселенной рыбы составило около 300 тысяч экземпляров»*, – рассказал заместитель начальника управления охоты, рыболовства и туризма БООР **Владимир Козловский**.

Спикер отметил, что объемы могли быть гораздо больше. В БООР насчитывается 35 тысяч рыболовов-любителей. При этом принято считать, что количество рыболовов составляет 10% от числа взрослого населения страны.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



Леонид СИНИЦЫН, экс-глава Администрации президента:

# «Централизбирком нужно полностью заменить…»

*Когда-то Леонид Синицын формировал не только государственную вертикаль, но и во многом определял политику Александра Лукашенко. Именно он является автором эскиза нынешних официальных флага и герба Беларуси – Синицын рассказывал, что просто нарисовал их от руки. 20 лет назад он пробовал баллотироваться в президенты, но не сложилось. Синицын на всё махнул рукой и ушел в бизнес. В последние годы об экс-главе Администрации президента Леониде Синицыне практически ничего не было слышно. «Народная Воля» поинтересовалась его судьбой и нынешними политическими взглядами.*

**– Леонид Георгиевич, как у вас дела? Чем вы сейчас занимаетесь?**

– Дела нормально. Занимаюсь бизнесом и некоторыми культурологическими проектами.

**– Лет пять назад, когда мы с вами беседовали, вы говорили, что в сфере ваших интересов – космические программы, спутники, биржи…**

– Уже сменил направление – космические проекты Марс накрыл медным тазом! (*Смеется.*) Сейчас в сфере моих интересов – недвижимость, международная торговля и прочее.

**– Как реагируете на то, что сейчас происходит в стране? Вы вообще сегодня на чьей стороне?**

– На чьей стороне? Ну ясное дело – с народом!

**– Хороший ответ от человека, который нарисовал от руки эскиз официальных флага и герба.**

– Под этими символами Беларусь еще не один год будет жить! Бело-красно-белый флаг – исторический символ, но он никогда не приносил удачи, и так сложилось, что все, кто брал его руки, всегда терпели поражение. Может, в девяностых годах только были всплески какие-то – позньяковские ребята продержались несколько лет, это фактически их символ, но в целом он не несет удачи. Хотя чисто эстетически – да, приятен глазу, красивый, там и библейское есть начало, но как символ государственный – увы…

**– Сегодня все живут в состоянии непроходящего напряжения... По вашим прогнозам, чем всё закончится?**

– Наверное, так, как раньше, уже не будет. Это был уникальный период – 25 лет, когда Беларусь действительно сформировалось как государство (не до конца, но всё же). И такое вряд ли повторится.

Когда-то многие инвестировали в паровозы, но при этом уже были дизели. Так и сейчас – нужно вкладываться в будущее, в то, что дает перспективу. А старое – оно уже отживает, уходит. Может, еще и не замечает, что конец близок, что время закончилось, думает, что еще живо и здорово…

Белорусское общество – не то чтобы зрелое, но вдумчивое. Думаю, и власть, и оппозиция, и народ в конце концов найдут общий язык. Всё будет хорошо! Но такого достатка, как раньше, пока не будет. Об этом на какое-то время можно забыть. Хотя стремиться нужно!

**– Хотите сказать, что нас ждут не очень простые времена?**

– Да. В мире всё тоже непросто с экономикой, общий тренд идет к понижению. А сейчас закрыты границы, санкции – ну какое может быть развитие?

**– Что скажете по поводу анонсированных изменений Конституции?**

– Я Конституцию не менял бы. Конституция – это фактор стабильности. Если ты, условно говоря, каждые три года будешь ее менять – толку от этого не будет. Любую систему – экономическую, социальную, политическую – можно разрушить либо одним мощным ударом, либо серией частых маленьких повторяющихся ошибок. Математически это было даже доказано. Система стабильна тогда, когда есть твердые традиции – как в той же Англии. В этом большой смысл! И Конституция – это как традиция.

На мой взгляд, сейчас у нас совершенно нормальный Основной закон, позволяющий разрешить любой политический кризис, и нынешний в том числе.

**– А как быть с ограничением президентских сроков?**

– Это, пожалуй, единственный момент, который можно поменять.

Мне кажется, в этот сложный период в обществе может быть какое-то конституционное соглашение – естественно, в рамках действующей Конституции.

Реформирование Конституции – не самый главный момент, более важен этапный процесс создания гражданского общества. Лет 12 должна идти конституционная реформа в наших условиях, чтобы три-четыре созыва парламента сменились, чтобы сформировались политические партии. Партии, кстати, может сформировать только власть – запустить этот процесс. Сначала будут говорить, что они такие-сякие, провластные, но жизнь всё расставит по своим местам. В Верховный Совет 12-го созыва пришли 97 процентов коммунистов, а через год и партии не стало! Поэтому не нужно бояться, должен идти процесс партийного строительства, судебно-правовой реформы – все в рамках конституционной реформы.

**– Всебелорусскому народному собранию предлагается придать конституционный статус…**

– Мне кажется, это притянутое за уши предложение.

У нас сейчас кризис власти. И когда такое происходит, как правило, всегда собирают какое-то вече. Могла и оппозиция что-то подобное провести – просто у них, видимо, опыта не было, как это делать.

А то, что власть провела Всебелорусское собрание, – в той ситуации это было просто необходимо. Парламент ведь язык куда-то засунул и молчал, Лукашенко видел, что от него все в сторонočку отбежали – и «Белая Русь» в том числе. Поэтому он сделал так, как жизнь подсказала. Я не вижу большой целесообразности в этом собрании, чтобы придавать ему конституционный статус. Но на какое-то время оно действительно выручило.

**– Президентские выборы, с вашей точки зрения, нужно проводить досрочно?**

– Лукашенко сам сказал, что пересидел, пора уходить. Сказал – делай. Только нужны честные выборы.

**– Вы уверены, что это возможно? Избирательный кодекс не меняли, Централизбирком по-прежнему возглавляет Лидия Ермошина…**

– Думаю, когда дело подойдет к этому этапу, и Централизбирком будет другой. Но проводить выборы нужно только по-честному! Необходимо, чтобы и партии были в избирательных комиссиях представлены. Хотя партии у нас и не сильно актуальны в обществе, но тем не менее. Нужно, чтобы независимые наблюдатели были, и международные тоже. И всё успокоится.

Но Централизбирком нужно полностью заменить. Последние выборы, которые Ермошина проводила, были провальные.

**– Если не секрет, за кого вы голосовали на минувших президентских выборах?**

– За Тихановскую. Она много говорила о том, что нам нужны честные выборы. Больше никто из кандидатов на этой идее акцент не делал, а эти три девчонки все время говорили о том, что выборы должны быть честными.

**– На протестные акции ходили?**

– Нет. Но я живу в центре, у меня хороший социальный слух, я прекрасно понял, что происходит. Хотя и не верил, что что-то глобально поменяется.

**– Почему?**

– Это была революция не политическая, а, скорее, моральная. В тот острый период не было грамотного лидера. Люди требовали честных и моральных выборов, а лидера такого не было. Пытались кого-то назначить, но не вышло. Поэтому и не получилось. Но вызреет ситуация, появится лидер. Может, и власть поможет кому-то дозреть…

**– Думаете, будет озвучено имя преемника?**

– Обычно такое правление, как мы сейчас имеем, переходит в другую фазу через коллективное управление. Думаю, так и будет. Был же принят недавно декрет о том, что власть в случае чего перейдет к Совбезу… Хотя, конечно, сценарии могут быть разными.

**– Леонид Георгиевич, вы всё же выходец из тех, скажем так, высоких слоев атмосферы. Не пытались дать совет тем, кто сегодня у власти, – так сказать, по старой дружбе?**

– У меня была такая мысль, я даже кое-какие движения делал в этом направлении, но там своя точка зрения. Может, у них всё же больше информации. А может, и заблуждений. Поэтому и не стал лезть.

У меня нет страха, что Беларусь развалится, все люди уедут. Ничего подобного – здесь и через тысячи лет люди будут жить! А этот сложный период нужно просто обустроить, чтобы жизнь была нормальной и комфортной. Сейчас нужны другие подходы в госуправлении, совсем по-другому нужно работать чиновникам. Смотрите, как «Телеграм» всё закрутил! Нужно понимать, что паровозы и даже дизели остались в прошлом. Просто бить по хвостам – это не выход, Нужно быть на шаг впереди времени…

**Марина КОКТЫШ.**

### Из архива «Народной Воли»

*Леонид Синицын, 63 года, родился в Полоцке. Закончил Новополоцкий политехнический институт. Работал в строительстве, занимал ряд руководящих постов.*

*В 1994 году был руководителем предвыборного штаба Александра Лукашенко, затем стал главой Администрации президента. Именно Синицын выстраивал ту государственную вертикаль, которая существует и сегодня. Через два года из-за несогласия с политикой президента ушел в бизнес.*

*В политическом поле вновь появился в 2001 году, когда предпринял попытку составить альтернативу Лукашенко. Он не был зарегистрирован в качестве кандидата – собранных подписей оказалось недостаточно.*

*В течение шести лет после этого Синицын доказывал в Комитете по правам человека ООН, что в ходе кампании было нарушено его право избираться, а также право на независимую и беспристрастную защиту. В итоге разбирательства Комитет принял решение в пользу Леонида Георгиевича и потребовал от официального Минска исправить допущенные нарушения и компенсировать Синицыну моральный и материальный ущерб. Но это решение выполнено не было.*

*Сам Синицын в интервью утверждал, что его целью не было получение личной выгоды или отмена итогов выборов 2001 года. По его признанию, он хотел изменить отношение государства к плебисцитам и гражданам, которые в них участвуют.*

РЭГІЁН

Сяргей ЯКШЭВІЧ, аўтаперавозчык:

# «У нас цяпер толькі адна мэта – выжыць...»

*«Народная Воля» пацікавілася, як ідуць справы ў гродзенскіх аўтаперавозчыкаў.*

### «Бусы амаль год стаялі на прыколе»

Гродзенская фірма-аўтаперавозчык ААТ «Кортакс» на рынку ўжо 13 гадоў. Гэта шматпрофільная структура, якая прапануе цэлы шэраг паслуг. У штаце 45 работнікаў, аўтамабільны парк – каля 20 бусаў.

Намесніца дырэктара **Святлана Каранеўская** пералічвае сферу дзейнасці фірмы да пандэміі: вазілі ўдзельнікаў розных канферэнцый, сімпозіумаў па Беларусі і за мяжу, абслугоўвалі арганізаваныя экскурсіі і асобных турыстаў у выхадныя дні, дастаўлялі людзей у аэрапорт, забяспечвалі папулярныя ў народзе шоп-туры ў Беласток… Цяпер засталіся толькі гарадскія маршруткі. На гэтым, уздыхае мая суразмоўца, фірма і трымаецца. Праўда, колькасць пасажыраў на гарадскім транспарце адчувальна скарацілася.

*– У нас кошт праезду ў маршруткі – 1,20 рубля, а ў таксі тры-чатыры чалавекі, каб даехаць дадому з працы, скідваюцца і плацяць 4 рублі,* – падлічвае спадарыня Каранеўская. – *І многія падчас пандэміі выбіраюць таксі, паколькі гэта больш бяспечна.*

Святлана дастае з паліцы папку з надпісам «Дзеці». Кажа, што гэта папка штогод пухла ад дамоў, асабліва падчас канікул.

*– А цяпер ніхто не звяртаецца да нас. Апошняя дамова са школай была заключана 20 сакавіка 2020 года...*

Цяпер бусы ААТ «Кортакс» адпраўляюцца ў рэйсы па Беларусі толькі са спартыўнымі клубамі «Гараднічанка» і «Кронан».

*– Нашы бусы, якія выкарыстоўваліся для заказных паездак, амаль год стаялі на прыколе і нікуды не выязджалі,* – гаворыць спадарыня Каранеўская. – *І што будзе далей – не вядома.*

Адчувальна знізіліся заробкі вадзіцеляў, а таму пачалася цякучка кадраў. Маладыя людзі, якія наймаюцца на працу, імкнуцца трохі набрацца вопыту, а потым з'язджаюць працаваць у замежныя фірмы.

*– У нас цяпер на маршруткы людзі зарабляюць 600–700 рублёў, а ў замежных фірмах на «цірах» – да 1500–2000 еўра,* – канстатуе намесніца дырэктара. – *Знайсці прафесійнага кіроўцу робіцца праблемай.*

Таму ў фірме застаюцца працаваць людзі больш сталага ўзросту, якім ужо позна ехаць у пошуках працы за мяжу.

*– Мы наогул цяпер вымушаны браць вадзіцеляў па сумяшчальніцтве. Нехта працуе на «хуткай дапамозе», у тралейбусным упраўленні ці яшчэ недзе. Падладжваюцца пад свой і наш графік і ездзяць.*

Адчувальна б'е па бюджэце фірмы і кошт паліва. Кожнае падаражанне бензіну на 1 капейку павялічвае расходы ў месяц на 200 рублёў. А гэта палова аплаты арэнды офіса, якая расце разам з курсам еўра. А яшчэ трэба заплаціць за тэхагляд і дазвол на дарожны рух на кожную машыну, за абслугоўванне касавых апаратаў, апарата СКНО, якія ўстанавілі ў мэтах падатковага кантролю.

Самае прыкрае ў гэтай сітуацыі, лічыць мая суразмоўніца, што ніякай перспектывы не праглядаецца.

### Спадзяванняў не засталося

Гродзенская прыватная фірма «Zet» – адна са старэйшых у рэгіёне. Лічыцца шматпрофільнай, паспяхова займалася ў тым ліку пасажырскімі перавозкамі і мела сваё турагенцтва. Дырэктар **Сяргей Якшэвіч** распавядае, што праблемы пачаліся з сакавіка мінулага года, калі да нас дакацілася пандэмія.

З ня́даўняга часу засталіся толькі тры рэйсы бусаў з Гродна ў Беласток. Колькасць пасажыраў – мізэрная. Калі да пандэміі загрузка транспарту была амаль стопрацэнтная, то цяпер у салоне адзін, два, тры чалавекі. Даходаў ад гэтых перавозак ледзь хапае на паліва і самыя неабходныя расходы. Каб трымацца на плыву, давялося ўзняць кошт білета з 15 да 40 рублёў.

Што датычыцца турыстычных паслуг, то гэты від бізнесу пацярпеў найбольш. Толькі апошнімі тыднямі ў офіс пачалі прыходзіць нешматлікія кліенты і цікавіцца тым, што прапануе фірма. Сітуацыя ўскладнілася яшчэ і спыненнем палётаў беларускіх самалётаў.

Адна з самых складаных праблем у дадзенай сітуацыі – як утрымаць супрацоўнікаў. Сяргей Ігнатавіч кажа, што ў турагенцтве людзі знаходзяцца на рабочых месцах толькі па некалькі гадзін: няма чым займацца.

*– Калі летась мы яшчэ мелі нейкую надзею, што нешта зменіцца, то сёлета ніякіх спадзяванняў не засталося,* – сумна заўважае мой суразмоўца. І працягвае: – *І ў сферы транспарту, і ў сферы турызму цяпер толькі адна мэта – выжыць.*

### «Некалі я быў сур'ёзным перавозчыкам...»

У яшчэ больш складанай сітуацыі аказаліся індывідуальныя прадпрымальнікі, якія займаюцца пасажырскімі перавозкамі. Асабліва тыя, у каго адна ці дзве машыны.

**Андрэй Вітуль** распавёў, што да пандэміі ў яго было некалькі сваіх бусаў і яшчэ ён браў заказы, наймаючы на іх выкананне бусы з іншых фірмаў.

*– Некалі я сапраўды быў сур'ёзным перавозчыкам, праца кіпела, нармальны даход быў,* – згадвае Андрэй. – *А зараз у мяне толькі адзін бус, паколькі іншыя машыны ўтрымліваць няма за што. Ды і канкурэнцыя вялікая, а заказаў практычна няма.*

А да ўсяго яшчэ дадалося і тое, што межы закрыты і няма ніякай яснасці, калі яны адкрыюцца. З надыходам лета не адчуваецца ніякіх зрухаў.

Індывідуальная прадпрымальніца **Алена Шымановіч** ужо цэлы год жыве на лецішчы, паколькі працы на пасажырскіх перавозках амаль не стала. У яе адзін бус, і той выконвае адзін-два заказы ў месяц.

*– Добра, што яшчэ хоць на падаткі і розныя выплаты ўдаецца зарабіць,* – падкрэсліла жанчына.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Хоць загінуў чалавек, ды працягваецца здзек

На месцы, куды людзі прыносілі кветкі ў памяць аб забітым Аляксандры Тарайкоўскім, улада паставіла смеццевы кантэйнер.

Падчас былых пратэстных хваль
Ад безразважнай кулі
Загінуў чалавек, на жаль, –
Усе пра гэта чулі.
Не ўздзіў, што да апошніх дзён
Дарослыя і дзеткі
На месца, дзе загінуў ён,
Насілі-клалі кветкі.
Для ўлады кветкавы дэкор –
Нібы скула на твары;
Уладзе ганьба і дакор –
Букеты для ахвяры.
І людзям з кветкамі ніяк
Даць рады немагчыма,
Бо не запхнеш у аўтазак
Усіх, хто крочыць міма.
Каб людзі больш у месцы тым
Не пакідалі кветкі,
Чыноўнік з кумпалам пустым
Ці проста цынік рэдкі
Паставіць загадаў туды
Кантэйнер, што для смецця.
(Відаць, напружваў ён глузды
Уночы да дасвецця.)
А кветкі ўсё-ткі пакладзе
Народ – няма сумневу.
І толькі ў нашай грамадзе
Паболей стала гневу:
З жывых людзей чынілі здзек
Чыны такога кшталту,
Цяпер і мёртвы чалавек
Не змог пазбегнуць гвалту…
***
Нядоўга жыць нам
«пад пятой»,
Мінецца ліхалецце.
Чаму? Ніхто ў кантэйнер той
Насіць не хоча смецце…

## Патрэбна запісаць на лбе: не варта верыць варажбе

Да двух гадоў дамашняй «хіміі» асуджана 27-гадовая мінчанка, якая здымала псоту з грошай і залатога бранзалета, забраўшы іх у незнаёмай жанчыны.

Махляркі дураць нам галовы
Пры дапамозе варажбы.
Ім людзі ўсё аддаць гатовы,
Пазбегнуць жудасці абы
Ці каб не стала доля горшай,
Чым да апошняе пары.
Часцей з каштоўнасцяў і грошай
Здымаюць псоту махляры:
Каму ж, скажыце мне, ахвота,
Каб больш было ў яго турбот,
Каб перакінулася псота
З праклятых кольцаў ці банкнот?
Ён свой набытак «пракажоны»
З душою лёгкаю аддасць.
Ну, адным словам, забабоны
Тым, хто махлярыць,
вельмі ў масць.
Вось так і гэтая дзяўчына
Злачынны спраўдзіла намер.
Да незнаёмкі нейкім чынам
Сумела ўцерціся ў давер.
Сказала ёй:
– Твае банкноты,
А да таго ж і бранзалет
Задужа шкодныя з-за псоты,
Іх пры сабе трымаць не след.
Хоць мне напотым будзе туга,
Хоць і самой не па нутру,
Ды вось табе мая паслуга:
Тваё багацце забяру.
І ёй няшчасная кабета
Усё, што мела, аддала.
Яшчэ й аддзячыла за гэта:
Усё ж пазбавіла ад зла.
Калі ж нахабную махлярку
Схапілі ўрэшце за руку
(Шкада, што не далі па карку),
Яна сказала следаку:
Учынак мой амаль харошы,
Няма ніякае бяды,
Бо кожны ведае, што грошы
Людзей псуюць і сапраўды…

ЗДАРЭННЕ

# Страшная аварыя пад Чавусамі: чацвёра загінулых, сярод іх – дзіця



*Вялікая бяда здарылася ля вёскі Раманавічы. Вадзіцель аўтамабіля Citroen перасек дзве суцэльныя раздзяляльныя паласы, з тым каб абагнаць іншую машыну. А ў гэты момант насустрач імчалася фура, у якую і ўрэзалася легкавушка.*



Фото Могилевонлайн.

СІТУАЦЫЯ

# На ААТ «Гродна Азот» не працягваюць кантракты васьмі членам незалежнага прафсаюза

*Шэсць работнікаў ААТ «Гродна Азот» і два работнікі аб'яднанага з ім прадпрыемства «Хімвалакно», якія з'яўляюцца членамі Беларускага незалежнага прафсаюза, атрымалі паведамленні аб тым, што працоўны кантракт з імі працягвацца не будзе. Прычыны не тлумачацца. Незалежны прафсаюз накіраваў зварот у шэраг інстанцый.*

Кіраўнік заводскай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза **Андрэй Ханевіч** распавёў, што паведамленні ўсе работнікі атрымалі, як і належыць, за месяц альбо паўтара да заканчэння кантракта. Здзіўляе, паводле яго слоў, тое, што большасць з іх – людзі з вялікім прафесійным досведам, раней не мелі якіх-кольвек пакаранняў і нараканняў на працы.

Тыя, хто атрымаў паведамленні першымі, па рэкамендацыі прафсаюза напісалі лісты ў адміністрацыю прадпрыемства і прасілі патлумачыць прычыны адмовы працягу кантрактаў, а таксама пацвердзілі сваё жаданне працаваць далей. Праз два тыдні ніхто з іх афіцыйных адказаў ад адміністрацыі прадпрыемства не атрымаў.

Члены незалежнага прафсаюза лічаць, што сітуацыя, калі не працягваюць кантракты адразу васьмі работнікам, якія ўваходзяць у склад іх прафсаюзнай арганізацыі, невыпадковая.

На прафсаюзным сходзе было прынята рашэнне звярнуцца з запытамі ў канцэрн «Белнафтахім», Савет міністраў, Камітэт дзяржаўнага кантролю, пракуратуру, а таксама падрыхтаваць неабходныя паперы для вядзення калектыўнай спрэчкі.

У звароце ўказваецца, што работнікі, з якімі не працягваюць кантракт, маюць высокую кваліфікацыю. Канстатуецца, што прэтэнзій з боку наймальніка па якасці выконваемай працы не было. У лісце сцвярджаецца, што на іх месца будуць прыняты рабочыя, якія не маюць адпаведнай кваліфікацыі, а падрыхтоўка кваліфікаванага работніка займае не адзін месяц і нават не адзін год.

Пярвічная арганізацыя прафсаюза лічыць, што звальненне кваліфікаваных работнікаў і прыём на іх месца непадрыхтаваных вядзе да зніжэння эфектыўнасці вытворчасці, што раней ці пазней адаб'ецца на рэнтабельнасці прадпрыемства.

У лісце таксама звяртаецца ўвага на тое, што звальненне кваліфікаваных работнікаў у сувязі з іх членствам у тым ці іншым прафсаюзе з'яўляецца дыскрымінацыяй, што забаронена арт.14 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Акрамя гэтага, кіраўніцтва прафсаюза лічыць, што падобныя дзеянні адміністрацыі прадпрыемства накіраваны на стварэнне канфліктнай сітуацыі ў працоўным калектыве.

Падсумоўваючы патрабаванні, старшыня прафсаюза Андрэй Ханевіч просіць вышэйназваныя інстанцыі прыняць адпаведныя захады, каб спыніць звальненне кваліфікаваных работнікаў.

«Народная Воля» ў сваю чаргу звярнулася за каментарыем да намесніка Генеральнага дырэктара ААТ «Гродна Азот» па бяспецы і кадрах **Алега Жывушкі**. Даваць каментарый па тэлефоне Жывушка адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што не ведае, з кім размаўляе. Газета падрыхтавала на адрас намесніка гендырэктара пытанні ў пісьмовым выглядзе, якія накіравала праз электронную пошту. Як толькі рэдакцыя атрымае адказы – адразу ж пазнаёміць з імі чытачоў.

Нагадаем, што на мінулым тыдні калегія Гродзенскага абласнога суда адхіліла скаргу арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза ААТ «Гродна Азот» на рашэнне Кастрычніцкага суда, які прызнаў законным звальненне 13 членаў незалежнага прафсаюза. Усе яны пазбавіліся працы пасля таго, як узялі ўдзел у забастоўцы 26 кастрычніка мінулага года.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

РЕПРЕССИИ

# 63 «шмона» за 20 суток,

## или Как репортер DW отбывал арест в могилевском изоляторе

*Журналист **Александр Бураков** отбыл в Могилеве 20 суток административного ареста по обвинению в «повторном участии в несанкционированном мероприятии». Как это было? Рассказ от первого лица.*

Попытка прийти на суд над Павлом Северинцем в Могилеве обошлась репортеру DW в 20 суток административного ареста. За это время в изоляторе временного содержания (ИВС) УВД Могилевского облисполкома не было ни одной прогулки, не передано ни одно письмо и не вручена полностью ни одна передача от родственников. Реалии ареста по-белорусски – 63 «шмона» за 20 суток, 20 бессонных ночей, два холодных душа и отсутствие возможности побриться. В заключении не дают даже посмотреться в зеркало, только после выхода можно увидеть себя – с бородой, которую никогда не носил.

### Голод и холод

Административный арест в Беларуси начинается с голода. Граждан, на которых уже составлены протоколы, помещают в комнату для задержанных лиц на территории районного ОВД. Это каменный мешок без окон размером три на три метра, где круглосуточно горит неяркая лампочка. В народе такие места называют «обезьянниками».

Заводят туда разутыми, так как некоторые задержанные, например с сильным алкогольным опьянением, лежат прямо на полу. В носках холодно, в воздухе висит специфический запах, и там никогда не кормят.

По закону, в такие помещения сажают людей, если статья не предусматривает задержания на срок более двенадцати часов. На практике некоторые проводят там целые сутки, прежде чем попадут в ИВС. Так что пять-шесть часов в ожидании машины можно считать удачей.

В ИВС людей, как правило, привозят уже после отбоя, то есть после десяти вечера, а это через три часа после ужина. Таким образом, позавтракав дома в 8 утра, следующий раз можно перекусить только через сутки, не раньше.




Александр Бураков после освобождения. «Возможности побриться в изоляторе не было».

### Вместо подушки бутылка с водой

В ИВС в мирное время действуют правила внутреннего распорядка (ПВР) мест отбывания административного ареста, утвержденные постановлением МВД. Согласно этому документу, в частности пункту 38, каждый арестованный обеспечивается индивидуальным спальным местом, постельными принадлежностями, бельем и средствами личной гигиены. Такие же требования содержат, кстати, Минимальные стандартные правила ООН в отношении обращения с заключенными, принятые еще в 1955 году в Женеве.

Но в реальности первую ночь пришлось провести вчетвером в узкой двухместной камере. Спали на голых досках, и дважды за ночь дежурный милиционер без какой-либо причины будил узников. Эта процедура потом повторялась каждую ночь. Мешала заснуть и постоянно горящая под потолком яркая лампа дневного света. На ночной режим освещения ИВС теперь не переходит.

При всех лишениях, как ни странно, наибольшей проблемой было отсутствие подушки. Без нее любая попытка заснуть становилась мучением. Через день посчастливилось раздобыть пластиковую бутылку и, наполнив ее водой, 19 ночей подкладывать под голову.

Еще один лайфхак – рулон туалетной бумаги, на котором также можно заснуть. Туалетная бумага в заключении вообще приобретает новое значение. Например, чтобы согреться, ею можно оборачивать пальцы на ногах, а поверх натянуть носки. Тогда скорее заснешь в экстремальных условиях.

Но самое интересное начинается утром. Согласно пункту 21 ПВР, полный личный обыск производится в изолированном, теплом, хорошо освещенном помещении. На практике же арестованных выгоняют в холодный и грязноватый коридор, где их заставляют раздеваться догола. Принуждают отдать даже трусы, хотя пункт 27 ПВР гласит: «не допускается проведение личного обыска административно арестованного способами, унижающими человеческое достоинство».

Далее следует команда принять позу «к обыску». Это значит, что руки нужно поднять и вывернуть ладонями вверх, а потом упереться внешней стороной ладони в стену. Ноги при этом нужно максимально развести в стороны, тюремщики «помогают» сделать это ударом ноги ниже щиколотки. Такая процедура проводится трижды в день.

### Пытки каждую минуту

Конвенция ООН против пыток и других жестоких, бесчеловечных или унижающих достоинство видов обращения и наказания дает определение «пытки» как любого действия, которым лицу умышленно причиняется сильная боль или страдание, физическое или нравственное, чтобы получить сведения или наказать его, а также запугать, когда такая боль или страдание причиняются государственным должностным лицом.

В могилевском ИВС пыткой можно назвать каждую проведенную в нем минуту. Днем арестованным запрещено даже присесть на нары. Сидеть можно только на лавочке длиной в один метр, поэтому узники похожи на птиц, примостившихся на жердочке в сомнамбулическом состоянии из-за постоянного недосыпания. Еще можно стоять или ходить по камере, но это ровно пять шагов.

Тюремщики очень хорошо знают физиологию человека. Якобы из-за коронавируса арестованных теперь не возят на суд. Заседания проводятся по скайпу. Компьютер стоит на первом этаже здания ИВС, куда обвиняемого приводят в наручниках, застегнутых за спиной.

Перед компьютером привинчен к полу стул. Конвоир сажает на него арестанта, но наручники не снимает. Через 40 минут невыносимо начинают ныть лопатки, и подсудимый готов на всё, чтобы поскорее закончилась эта мука. Суд длился полтора часа, и приговор в 20 суток ареста казался благом, избавляющим от наручников.

(dw.com)

